

# Навіны

Беларускага Народнага Фронту "АДРАДЖЭНЬНЕ"

№ 1 (40)

1994 г.

Выдаецца са сьнежня 1988.

Кошт 100 рублёў




Фота У. БАЗАНА.

Пазьняк Зянон Станіслававіч нарадзіўся 24 красавіка 1944 г. ў м. Суботнікі Івейскага р-на Гродзенскай вобл. Яго бацька Станіслаў Янавіч і маці Ганна Яўхімаўна—карэнныя беларусы, у той час працавалі на зямлі. Бацька загінуў у сьнежні 1944 г. на фронце.

Зянон Пазьняк у 1967 г. скончыў Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. У 1969 г. паступіў у аспірантуру Акадэміі навук. У 1975 г. па палітычных прычынах звольнены з працы, дысертацыю кандыдата навук быў вымушаны абараняць у Расейскай Федэрацыі, у Ленінградзе. З 1976 г. працуе старэйшым навуковым супрацоўнікам у інстытуце гісторыі, дасьледуе помнікі археалогіі і архітэктуры позьняга сярэднявечча.

Адкрыў Курапаты. У 1988 г. быў ініцыятарам стварэньня БНФ. У 1990 г. абраны народным дэпутатам. Старшыня Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

Пазьняк—валявы чалавек. Даводзіць задуманае да канца, не спыняецца перад цяжкасьцямі. Можна не сумнявацца, што сваю запаветную мару—убачыць родную Беларусь свабоднай і багатай краінай—ён зьдзейсьніць.

**Управа Сойму БНФ**

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ—ГЭТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ І ПАРАДАК

**Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» і яго кіраўнік Зянон Пазьняк выступаюць за ўладу для народу, а не для скарумпаванай намэнклятуры. Таму пасьля перамогі на выбарах мы перш за ўсё:**

### * Усталюем у грамадзтве законнасьць і парадак

Органы ўлады, міліцыя, армія будуць ачышчаны ад карупцыянераў. Злодзеі павінны сядзець у турме, а не займаць дзяржаўныя пасады.

Будуць прыняты спецыяльныя законы, дадзены адпаведныя правы і сродкі праваахоўным органам для барацьбы са злачыннасьцю.

Будзе спынена намэнклятурная «прыхватызацыя». Усё, што намэнклятура нарабавала ў дзяржавы, будзе вернута праз суд.

Дзяржаўныя межы Беларусі будуць адкрытыя для гандлю, чалавечых кантактаў, але закрытыя для злачынцаў. Наша краіна больш ня будзе прахадным дваром для мафіёзных груповак іншых краін. Будзе забаронены гандаль зброяй.

### * Сфармуем урад сумленных прафесіяналаў

Пачнуцца сапраўдныя рэформы ў інтарэсах Беларусі і яе народу.

Будуць уведзены стабільныя беларускія грошы. Гэта спыніць інфляцыю і рост цэн, запоўніць прылаўкі якасным таварам.

Беларуская эканоміка будзе адкрыта для свабоднага гандлю. Новы ўрад будзе імкнуцца да заключэньня раўнапраўных эканамічных пагадненьняў з усімі краінамі, а найперш з суседнімі.

Зьменіцца бюджэтная палітыка, што дазволіць зьнізіць падаткі і падтрымаць вытворцаў.

У той жа час будзе ўведзены прагрэсіўны падатак на нерухомасьць. Уладальнікі шыкоўных маёнткаў будуць плаціць падатак, які пойдзе ў фонды сацыяльнай дапамогі пенсіянерам і дзецям.

Новы ўрад будзе праводзіць пасьлядоўную праграму разьдзяржаўленьня й прыватызацыі ў інтарэсах простых людзей.

Новы закон аб зямлі спросьціць яе перадачу ў прыватную ўласнасьць тым, хто на зямлі працуе. Але мы супраць гвалтоўнага разгону калгасаў: мы выступаем за паэтапную іх рэарганізацыю ў сельскагаспадарчыя кааператывы, акцыянерныя таварыствы, фермерскія гаспадаркі і г. д.

Будзе створаны рынак нерухомасьці, а новы закон аб інвестыцыях прывабіць у Беларусь замежных інвестараў, якія прынясуць сучасныя тэхналёгіі і створаць новыя месцы працы для грамадзян нашай краіны.

Новы ўрад створыць належныя ўмовы для людзей высокакаваліфікаванай працы і для разьвіцьця беларускай навукі.

Новае кіраўніцтва скарыстае выгоднае геаграфічнае становішча Беларусі. Беларусь будзе атрымліваць вялікія грошы за трубаправодныя, чыгуначныя, паветраныя і іншыя транзітныя перавозкі праз нашу тэрыторыю. Будзе ажыцьцёўлены праект Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара, які дазволіць Беларусі і іншым суседзям купляць нафту там, дзе яна дзешавей.

Будзе ўзяты курс на эканамічную інтэграцыю Беларусі і іншых дзяржаваў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, а ў перспэктыве—на ўваходжаньне Беларусі ў агульнаэўрапейскія эканамічныя структуры.

### * Беларуская дзяржава будзе служыць сваім грамадзянам

Адбудзецца кампенсацыя страчаных у выніку інфляцыі грашовых укладаў.

Новы ўрад накіруе грошы з чарнобыльскага падатку на дапамогу пацярпелым людзям, а не чыноўнікам.

Будзе прыняты закон аб выкарыстаньні іншаземнай рабочай сілы. Вакантныя рабочыя месцы ў першую чаргу будуць займаць грамадзяне Беларусі.

Новы ўрад створыць новую сістэму сацыяльнай абароны насельніцтва.

Дзяржава будзе абараняць тых, хто ў такой абароне мае патрэбу.

Беларуская дзяржава забясьпечыць пенсіянерам спакойную старасьць.

Дзяржава падзеліцца з пенсіянерамі, перадаўшы частку сваёй маёмасці на карысьць пенсійнага фонду.

Мы лічым найважнейшым дзяржаўным клопатам прэстыж і дабрабыт сям'і. Час выхаваньня дзяцей будзе залічвацца ў працоўны стаж жанчын. Маладыя сем'і будуць атрымліваць доўгатэрміновыя льготныя крэдыты на будаўніцтва жыльля.

Выдаткі на адукацыю і культуру—гэта грошы, укладзеныя ў будучыню нацыі. Трэба разьвіваць багатую беларускую культуру і ў традыцыйных, і ў сучасных формах, нельга дапусьціць, каб у нас панавала прымітыўная масавая культура.

### * Мы ўмацуем беларускую дзяржаву

Будзе ўведзена зручная і бліжэйшая да людзей сістэма мясцовай улады.

Мясцовых кіраўнікоў будзе выбіраць непасрэдна сам народ.

Зь Беларусі будуць выведзены расейскія войскі.

Новы ўрад нацыяналізуе незаконна перададзеную іншым дзяржавам ці іх суб'ектам дзяржаўную маёмасьць Беларусі.

Будзе ўмацаваны нейтралітэт Беларусі. Беларускія салдаты і афіцэры ніколі ня будуць праліваць кроў за чужыя інтарэсы.

Мы лічым, што галоўная задача беларускай зьнешняй палітыкі—наладжваньне раўнапраўных, узаемавыгадных партнёрскіх дачыненьняў з Расейскай Федэрацыяй.

Беларусь будзе трымацца міжнародна-прававых нормаў і Хельсінскіх пагадненьняў. Межы Беларусі будуць межамі міру.

Мы будзем адстойваць інтарэсы беларускай дзяржавы на міжнароднай арэне. Будзе пастаўлена пытаньне, каб урад Расеі—пераемніцы СССР выплаціў нашай краіне кампенсацыю за Чарнобыль.

### * Мы аб'яднаем беларускае грамадзтва

Мы абараняем інтарэсы ўсіх грамадзян беларускай дзяржавы, незалежна ад іх нацыянальнасьці, веры ці палітычных поглядаў.

Мы гарантуем сапраўды свабодныя выбары ў новы Вярхоўны Савет Беларусі.

**Напасьледак—самае галоўнае.**
**Мы некалькі стагоддзяў не жылі ў незалежнай дзяржаве.**
**Мы адвыклі быць незалежнымі. Але мы адбудуем наш дзяржаўны дом—незалежную Беларусь.**

## В. Быкаў: «Беларусь не знікне, калі не скарыцца чужой сіле»

9 мая афіцыйныя лідэры краіны, пераважна з ліку былых партыйных і камсамольскіх функцыянераў, а таксама запрошаныя па спецыяльных спісах ветэраны ўскладалі кветкі да помніка на плошчы Перамогі. Гучаў аркестр, маршыравала ганаровая варта, сэрцы ўдзельнікаў цырымоніі лашчылі кумачова-балотныя сцягі БССР і СССР. У гэты ж самы час побач, у дзесятках метрах, групе іншых ветэранаў перакрылі шлях да помніка дужыя хлопцы-амонаўцы з дубінкамі.

Сярод тых, ад каго ахоўвалі ўдзельнікаў афіцыйнай цырымоніі, быў і Васіль Быкаў.

Начальнікі заўсёды бачылі ў Быкаве небяспеку і імкнуліся адгарадзіцца ад яго самі, але асабліва—адгарадзіць ад яго народ. Бо вядома, што калі народ пачынае слухаць і разумець такіх, як Быкаў, ён робіцца небясьпечным для ўлады. Але больш за ўсё ўлада баіцца Часу, бо ўсё на гэтым свеце смяротнае, акрамя хіба геніяў. І таму ўладары заўсёды імкнуліся далучыцца да вечнасці. Нашае начальства таксама жадала неяк адзначыцца і, перасільваючы непрыязненасць, асыпала Быкава найвышэйшымі крамлёўскімі ўзнагародамі. Відаць, і да ягонага 70-годдзя, якое хутка надыдзе, рэферэнты, па загаду сваіх патронаў, пачалі рыхтаваць прывітальныя лісты...

Ну, а дубінкі—гэта не запланавана, затое вельмі шчыра і натуральна.

Зрэшты, Быкаву ўсё жыццё прыйшлося пераадольваць бар'еры пагарды, несправядлівасці і хлусні. Тое нешматлікае, што застанецца нашчадкам ад цяперашняга тлумнага часу—будуць быкаўскія творы. Але ягоныя словы пра нас, сённяшніх, адрасаваныя нам. Вось толькі ці хопіць нам разумення?

(Інтэрв'ю з В. Быкавым на 2—3-й стар.).

# ГУТАРКА СЯРГЕЯ НАВУМЧЫКА З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

**—Васіль Уладзіміравіч, яшчэ некалькі гадоў назад вы перасцерагалі ад залішняй эйфарыі, у якую пападалі дэмакратычныя сілы з прычыны дасягнення незалежнасці Беларусі. Здаецца, цяпер, як ніколі, суверэнітэт краіны знаходзіцца пад пагрозай. Што гэта—заканамерны стан для кожнай маладой дзяржавы ці нейкая наша ўласная своеасаблівасць?**

—Як мне здаецца, шмат што (калі не ўсё) у гэтай справе залежыць ад палітычнае волі нацыі. Калі гэтая воля дастаткова моцная і мэтаскіраваная, калі нацыя гатова да выпрабаванняў дзеля дасягнення ўласнае незалежнасці, пабудовы дзяржаўнасці, тады ў рэшце рэшт тая незалежнасць будзе здабыта.

Даволі хоць прыглядкам зірнуць на еўрапейскую гісторыю, каб згледзець, што праз немалыя выпрабаванні там прайшлі ўсе нацыі—вялікія і малыя, якія цяпер жывуць забяспечана і маюць усё, што трэба найперш ад плёну свае незалежнасці. Мабыць, тут варта яшчэ за бязрадаснай будзённасцю бачыць гістарычную перспектыву, якую дае незалежнасць—калі не для сучаснікаў, дык для наступных пакаленняў. Таму так важна гатоўнасць нацыі да руціннай працы дзеля будучыні, а не толькі дзеля патрэбаў сённяшняга дня. Зрэшты, тое павінна быць элементарным клопатам найперш для палітыкаў, урадоўцаў і дэпутатаў. І кепска, калі тыя маюць іншыя мэты, выхаваны на іншай ідэалогіі—сервільнай ідэалогіі падлегласці, спрадвечнай залежнасці ад суседняй дзяржавы, для якіх найбольшым страхоццем дагэтуль гучыць слова «нацыяналіст». Нібыта здзейсніць сапраўдны суверэнітэт нацыі магчыма сродкамі якой іншай, не нацыянальнай палітыкі.

У наш час папулярнасць нацыянальнай ідэі зразумелі палітыкі нават тых нацый, якія 70 год вялі бязлітасную барацьбу з нацыяналізмам (праўда, з чужым, не з уласным). Цяпер жа, як камуністы, так і дэмакраты, напралом кінуліся да ягоных прынцыпаў, не перастаючы, аднак, бэсціць нацыяналізм іншых народаў—украінскага, літоўскага, эстонскага і шмат якіх іншых. Звычайна ў такіх выпадках наракаюць на сапраўды жахлівую калатнечу ў гэтак званых «гарачых кропках» Закаўказзя, Сярэдняй Азіі, дзе шмат што ідзе ад давядзенага да абсурду нацыяналізму ды ісламскага фундаменталізму. Але вядома, што ёсць розны нацыяналізм (таксама, як і розны сацыялізм—ад шведскага да камбаджыйскага), а што датычыць «гарачых кропак», дык там кроў ліецца не толькі з прычыны абсурднага нацыяналізму, але ці ў большай меры—ад абсурднага камунізму. Хоць бы ў той жа Югаславіі, дзе ўся калатнеча ўсчалася, як вядома, з прычыны звар'яцелай агрэсіўнасці сербскага камунізму, які апантана выступіў супраць славенскіх, харвацкіх, а затым і баснійскіх памкненняў вырвацца з-пад сербска-камуністычнай падлегласці.

Можна любіць ці не любіць суседні народ, але без любові да ўласнага, да роднай зямлі і нацыі, яе гісторыі і культуры немагчыма пабудаваць дзяржаўны дабрабыт, шчасце асобнага чалавека.

**—Як вы ацэньваеце абыякавую рэакцыю значнай часткі насельніцтва на Дамову аб аб'яднанні грашовых сістэмаў, якая фактычна падпісаная з парушэннем Канстытуцыі і з'яўляецца здачай дзяржаўнасці?**

—Нашая эканоміка набыла гэткі заблытана-крызісны стан, што колькі-небудзь разабрацца ў ёй ужо не пад сілу нават спецыялістам сусветнага маштабу. Здаецца, усе еўрапейскія да амерыканскія эканамісты-дарадцы, што спрабавалі тое зрабіць, абтрэслі свае рукі і з'ехалі з Масквы. Трэба было стварыць д'ябальскія ўмовы, каб так яе развaліць і заблытаць, давесці да гэткага бядотнага стану. І гэта ў найбагацейшай краіне з безліччу людскіх і матэрыяльных рэсурсаў. Я не ў малой ступені не спецыяліст у эканоміцы, але, як і кожнаму нармальнаму чалавеку, мне абсалютна зразумела прынамсі адна з галоўных прычынаў яе заняпаду, якой з'яўляецца яе празмерная пачварная мілітарызацыя. Эканоміка, у якой 80 працэнтаў рэсурсаў так ці інакш аддадзена вытворчасці ракет, танкаў ды безлічы іншых сродкаў забойства, доўга існаваць не можа, яна павінна загінуць. Што і адбываецца, хоць яе агонія і задоўжылася з дапамогай рублёвых і доларавых ін'екцый. Але ўратаваць яе ўжо не можа ніхто: ні Ельцын, ні Гайдар, ні Чарнамырдзін, ні Кебіч. Ні нават сам Гасподзь Бог, калі б ён спусціўся на зямлю. Мабыць, яе пагібель—боскае пакаранне за наш камуністычны грэх перад чалавецтвам.

Але ж гінуць нікому не хочацца, а шляхоў паратунку не відно, і кіраўніцтва кідаецца ў імправізацыі. У шэраг неразумных, авантурных, часам панічных імправізацый, вынік якіх заўжды аднолькавы—яшчэ большая шкода. Найбольш бязглуздая і, мабыць, апошняя з іх—фінансава-эканамічная капітуляцыя Беларусі з мэтай вяртання яе ў ранейшы татальна-залежны стан, дзе ўсё будзе вырашацца ў Маскве. Таго вельмі дамагаецца шматлікая армія генеральных дырэктараў прадпрыемстваў ВПК, які ў суверэннай нейтральнай Беларусі рызыкаваў апынуцца без ракетных заказаў ды льготнага фінансавання, дамагаюцца іхнія калегі, такія ж генеральныя дырэктары АПК, што ледзьве не страцілі ўпэўненасць у сваёй феадальнай уладзе перад тварам зямельнай рэформы; несумненна за тое ж камуністы з перарэгістраванымі, а таксама прыхаванымі да часу партыйнымі білетамі. Ну і, вядома, інтэрнацыянальная мафія ўсіх адценняў, якой ужо стала цеснавата на абкрадзенай Беларусі і захацелася новых прастораў для грабяжу. Іхні дружны драпежны хор за аб'яднанне старанна артыкулююць цынічныя пісакі з прадажных утрыманак—газет і тэлебачання. Дык што ў гэтым хоры голас зняверанага, збітага з панталыку народа, калі просты чалавек цвёрда ўпэўнены ў адным: толькі тое яго, што ўкраў. У тым ён пераканаўся за гады панавання Саветаў і ў тым згледзеў рэальны плён сацыялізму, да якога не супроць вярнуцца.


Фота М. ШМЕРЛІНГА.

**—Пачынаецца прэзідэнцкая кампанія. Ці дае яна нашаму грамадству нейкія спадзяванкі, ці мо гэта—чарговы «фінт» наменклатуры, накіраваны на замацаванне ўлады?**

—Фігура прэзідэнта, як яна задумана і сфармулявана Вярхоўным Саветам, не болей чым бутафорская, цалкам марыянетачная ў руках таго ж Вярхоўнага Савета, які будзе ім маніпуляваць і ў любы момант можа зрабіць з ім тое, што нядаўна зрабіў з С. Шушкевічам. Скажаце, не: тое не прадугледжана Канстытуцыяй? А Вярхоўны Савет унясе адпаведную папраўку ў сваю Канстытуцыю, якую ён, як вядома, мае звычай разглядаць зусім не як Свяшчэнныя скрыжалі, а хутчэй—як рабочы чарнавік, які можна краіць-крэсліць на кожнай сесіі (а цяпер яшчэ і з дапамогай Канстытуцыйнага суда). Цяжка зразумець таксама логіку ідэі прэзідэнцкіх выбараў у святле зменлівай (калі не сказаць—здрадлівай) расейскай палітыкі, маючы на ўвазе нядаўна аб'яўлены Жырыноўскім план ператварыць Беларусь у Мінскую губерню: наўрад ці «першы прэзідэнт» Беларусі стане яе губернатарам. Мабыць, будучы фюрэр Расеі прызначыць губернатара з ліку сваіх уласных «маладых ваўкоў», аб якіх ён нядаўна аб'явіў у «Известиях». Навошта ж тады гэтыя шматмільярдныя выбарчыя выдаткі?

**—Некаторыя кажуць, што сярод усіх магчымых прэтэндэнтаў на пост прэзідэнта яны б аддалі перавагу Васілю Быкаву. Але сам Быкаў жадання балатавацца не праяўляе. Вы канчаткова вырашылі не ўдзельнічаць у актыўнай палітыцы?**

—Будучы ўсё жыццё беспартыйным, я ў ёй ніколі актыўна і не ўдзельнічаў. І зусім не таму, што лічу такую пазіцыю адзіна правільнай, а з чыста асабістых меркаванняў. І калі час ад часу выступаю з нейкімі радкамі ў друку, дык толькі таму, што ў пэўныя моманты не магу змоўчаць. Не дазваляе сумленне ўхіліцца, схавацца за спінамі іншых, як гэта ўжо стала пазіцыяй пэўнай (і немалой) часткі нашай нацыянальнай інтэлігенцыі. Канешне, пры тым я не цешу сябе надзеяй кагось пераканаць, наставіць на шлях праведны. У наш час словы мала што значаць і нікога не пераконваюць. Не пераконвае нават гістарычны вопыт. Мабыць, каб штосьць зразумець у шырокім маштабе, патрэбны жывы канкрэтны вопыт народа, хоць нярэдка тое разуменне прыходзіць да яго надта позна (як у нашай нядаўняй камуністычнай гісторыі), і патрабуе надта дарагую плату—крывёй і воляй. Але што ж, мабыць, мала Беларусь стрывала пакут, калі ўсё яшчэ не зрабіла з таго пэўных і надта элементарных высноў.

**—Некаторыя палітолагі гавораць пра так званы «феномен Лукашэнкі» і нават прадказваюць яму поспех на выбарах. Я спадзяюся, што, нягледзячы на вельмі хворы стан нашага грамадства, у большай яго часткі ўсё ж хопіць здаровага сэнсу. Але чым можна растлумачыць, што даволі значная частка людзей усё ж такі бачыць у ім свайго куміра? І калі ўявіць, што падобная асоба заняла б месца Прэзідэнта—ці можна спрагназаваць далейшае развіццё падзей?**

—Разгадка «феномена Лукашэнкі» вельмі простая: ягоны зычны, абураны голас. Голас цалкам мітынговы, г. зн. звернуты болей да эмоцый слухачоў, чым да іхняе логікі. А эмоцыі слухача-народа ў наш час, вядома, чым захоплены—абурэннем на ўладу, якая не служыць, а крадзе. І няма на яе ніякай управы. Лукашэнка выступіў у якасці абаронцы народнае праўды, Месіі, якога людзі чакалі, і выказаў усё так проста, зразумела ды з такім напалам, што людзі гатовы былі схапіцца за колле, каб тут жа рушыць за праведнікам. Толькі вось праведнік нікога нікуды не павёў. Ягоная задача была не ў тым, каб павесці, а мабыць, у тым, каб выпусціць эмацыянальную пару, якой накапілася занадта шмат і якая пагражала спантанным выбухам. Цяпер выбуху не адбудзецца, і ўлады аказаліся задаволеныя. Лукашэнка таксама не прайграў,—набыў зіхоткі німб над галавой, і паверыў у сваю выключнасць. Усё тое дало яму права запрэтэндаваць на беларускае прэзідэнцтва, з якім ён наўрад ці ведае, што рабіць. Хіба паехаць у Маскву на дамову аб парадку здачы Беларусі на больш-менш ганаровых умовах.

**—Якія якасці, на Ваш погляд, найбольш неабходныя Прэзідэнту ў нашай краіне і ў нашым грамадстве?**

—Мабыць, шмат якія. Але найпершая і самая неабходная—цвёрдае перакананне ў прыярытэтнасці нацыянальнай ідэі, гатоўнасць да ахвярнага служэння ёй. Такія прэзідэнты не надта патрэбны вялікім нацыям, але жыццёва неабходны малым.

**—Часта можна пачуць думку, што сярод беларускіх палітыкаў няма лідэра, здольнага аб'яднаць грамадства. Ці можаце Вы з гэтым пагадзіцца?**

—Такія лідэры ёсць, нацыя даўно б загінула, знікла з твару зямлі, калі б такія людзі ў яе перавяліся. Іх канешне не шмат (іх і не патрэбна шмат), але цяпер яны з'явіліся з народных нетраў—самаахвярныя, разумныя, адукаваныя і культурныя. І сярод іх я даўно бачу стромкую, гатычную фігуру Зянона Пазьняка, які ў поўнай меры валодае ўсімі дадзенымі, неабходнымі для незаўраднага лідэра нацыі. Так ці інакш ён гатовы служыць ёй у любой ролі, нічога не патрабуючы ўзамен. Але ад народа Беларусі залежыць, каб чалавек такога гатунку заняў адпаведны ягонае сутнасці пасад у дзяржаве. І тут уступае ў дзеянне не толькі фактар асобы Пазьняка, але таксама і мера палітычнай сталасці грамадства. Колькі ўжо на Беларусі здаралася выпадкаў, калі самыя вартыя яе сыны не знаходзілі прызнання на роднай зямлі і былі ўшанаваны на чужых, дзе тамтэйшыя народы зводзілі ім сапраўдны кштальт і надалі ім адпаведны гонар.

Кажуць, палітыцы і паводзінам Пазьняка бракуе патрэбнага для сучасных палітыкаў папулізму. Але, на мой погляд, тое адбываецца з першых спробаў Пазьняка разбурыць традыцыйны погляд на палітыку як на амаральную, брудную справу. Сваю палітыку Пазьняк імк-

нецца рабіць чыстымі рукамі, цалкам маральнымі сродкамі, што, будучы неаспрэчным наогул, не заўжды дае канкрэтны палітычны выйгрыш. Напрыклад, у сваіх публікацыях апошняга часу ён мог бы не выказвацца пра планы БНФ наконт люстрацыі—недапушчэння былых камуністычных функцыянераў да кіраўнічых пасадаў. Але ён не хацеў нічога ўтойваць і нікога ашукваць: ні ўласны электарат, ні тых самых функцыянераў, і адкрыта выклаў усе свае карты. Вядома, тое было даволі рызыкова ў наскрозь камунізаваным грамадстве, дзе гэткае мноства падлягае пад тую самую люстрацыю. Але ў тым мне бачыцца сумленны ўчынак палітыка, які адкрыта сведчыць пра свае намеры і не баіцца прысуду сучаснікаў і гісторыі. Ён упэўнены ў тым прысудзе, і гэта дадае яму мужнасці.

**—Беларускі Народны Фронт вылучыў кандыдатам у Прэзідэнты Зянона Пазьняка. Аднак некаторыя дэмакраты лічаць, што Пазьняк—занадта, так бы мовіць, радыкальная асоба, што нашаму грамадству патрэбны талерантны ды лагодны кіраўнік. Пры гэтым цяпер ужо не аспрэчваюцца праграмныя ідэі Пазьняка і Народнага Фронту, ідэі, за якія ў свой час тыя ж дэмакраты яго папракалі. Як Вы можаце ацаніць такія выказванні!**

—Так кажуць людзі пэўных палітычных накірункаў, якія ў новых сацыяльных умовах здабылі пэўны кошт і не хочуць яго губляць. Яны ўсцешыліся ілюзіяй цэнтрызму, ідэяй нацыянальнай згоды.

Але згоды каго і з кім? Мільёнаў абрабаваных, ашуканых, даведзеных да галечы людзей з тымі, хто давёў іх да таго стану, сам нарабаваўшы ўсё—ад шыкоўных, мільённых дач, кватэр з англійскай сантэхнікай да «хлебных» пасадаў і доларавых рахункаў у заходніх банках. Дзіўнавата ўсё ж чуць такое ад людзей, якія нядаўна яшчэ натхнялі іншых на класавую барацьбу з капіталізмам, а цяпер неўпрыцям ад іншых самі сталі валодаць капіталамі. Вядома, ім трэба, каб іх не чапалі, каб усё заставалася як ёсць, таму яны ды іхнія «дэмакратычныя» адвакаты такія прыхільнікі нацыянальнай згоды, «узважанай» палітыкі цэнтрызму, тактыкі—«ні нашым, ні вашым». Ім, канешне, вельмі патрэбны лагодныя дэмакратычныя лідэры, ціхмяныя грамадскія з'яднанні, кішэнныя палітычныя партыі, якіх яны будуць паціху падкармліваць, а не надта паслухмяных расколваць праз сваю сакрэтную агентуру і ўрэшце палітычна нейтралізаваць. Натуральна, што для гэтых людзей палітыка БНФ і Пазьняка занадта радыкальная, яна каламуціць спакой соннага балота, у якім адны жыруюць за кошт іншых.

Беларускі Народны Фронт даўно змагаецца за ажыццяўленне канстытуцыйнымі сродкамі вельмі выразнай, дэталёва распрацаванай праграмы ў галіне палітыкі, эканомікі і культуры,—праграмы Адраджэння Бацькаўшчыны. Сучасны ўрад не хоча прызнаваць тую праграму, бессаромна сцвярджаючы, што БНФ не мае ніякай праграмы. Ніводнага слова з яе не прагучала дагэтуль з экранаў тэлебачання, не паявілася на старонках урадавай прэсы. Народ застаецца глухі да адрасаваных яму ідэй, бо іх заглушаюць іншыя, чужыя галасы і чужыя ідэі. У такім умовах ніякую барацьбу нацыянальнай дэмакратыі не можна лічыць за празмерна радыкальную. Хутчэй наадварот. Дзеячоў беларускай нацыянальнай дэмакратыі мінулага і цяперашняга, мабыць, ёсць у чым папракнуць, але ўжо ніяк не ў празмерным радыкалізме. Вядома, што радыкалізм заўсёды быў вялікім дэфіцытам нашай сапраўды нацыянальнай палітыкі.

Што ж датычыць Зянона Пазьняка, дык пэўная складанасць ягонай палітыкі палягае ў тым, што ягоныя ідэі нярэдка апярэджваюць час і з'яўляюцца нечаканымі для пэўнай часткі грамадства. Таму першая рэакцыя грамадства на тое, што абвяшчае Пазьняк—ашаламленне і нязгода. Так было з Курапатамі, з выкрыццём КПСС, з развянчаннем асобы Леніна. Неўзабаве, аднак, тое, чым ашаламляе Пазьняк, робіцца руцінным фактам гісторыі, і ўжо ніхто не аспрэчвае яго і нават не ўспамінае, хто так сказаў першы. У тым, вядома, пэўная складанасць палітыкі Пазьняка, але і боская сіла Пазьняка-прарока.

**—Дарэчы, адной з прычын пэўных разыходжанняў паміж некаторымі дэмакратычнымі партыямі і Народным Фронтам стаў абвешчаны ў праграме БНФ парытэт правоў асобы і правоў дзяржавы. У гэтым нават бачаць ледзь не парушэнне правоў чалавека...**

—Мабыць, гэта вельмі зманліва—паставіць правы чалавека над правамі дзяржавы, тым болей таталітарнай ці посттаталітарнай дзяржавы. Але тут адразу выяўляюцца непераадольныя складанасці. Праблема гэтая ў наш час, у канкрэтных умовах нашага далёкага ад дэмакратыі грамадства набывае новы, нечаканы, нярэдка спекулятыўны сэнс. Як у краінах Балтыі, барацьба з незалежнасцю якіх так доўга і зацята вядзецца, як ні дзіўна, менавіта з пазіцыі прыярытэту правоў чалавека. Мабыць, ёсць у гэтай парадыгме штосьць метафізічна недасканалае, калі яе магчыма выкарыстоўваць у накірунку, супрацьлеглым таму, які дэкларуецца. Пэўныя парадоксы такога кшталту выяўляюцца і ў Беларусі, дзе былыя савецкія генералы, пераапранутыя цяпер у дэпутатаў Саветаў, з «Дэкларацыяй правоў чалавека» наперавес кінуліся супраць дзяржаўнай праграмы беларусізацыі. А нядаўна не толькі ўрад, Вярхоўны савет, а і Ліга правоў чалавека Беларусі апантана выступілі супраць выдачы ўраду Літвы двух камуністычных злачынцаў, якіх сумесна з Інтэрполам шукала пракуратура суседняй дзяржавы, і якія хаваліся ў Мінску. Здаецца, усё было зроблена адпаведна законам дзвюх дзяржаў, між якімі дзейнічае адпаведнае пагадненне, а вось нават Ліга ўбачыла ў факце выдачы парушэнне правоў чалавека. А можа, справа тут не ў чалавеку і не ў ягоных правах, а ў партыйнай прыналежнасці злачынцаў, якая ў вачах «лігеянераў» вымагае такой абароны?

Не, мусіць, пакуль нацыя бяспраўная, пакуль яна стаіць на каленях перад чужой сілай, нельга забяспечыць ніякі парытэт правоў ні яе самой, ні тым больш яе грамадзян. Усе яны аднолькава будуць бяспраўныя.

**—Ці застаўся ў нашага народа шанц на выратаванне!**

—Шанц заўсёды ёсць, хоць ён і вымагае пэўных варункаў. Нават на нашым вяку жыццё не перастае здзіўляць сваімі непрадказальнымі віражамі ў абсалютна нечаканых кірунках. Яшчэ гадоў восем таму хто мог прадбачыць крушэнне магутнай савецкай імперыі, раптоўны калапс КПСС, знішчэнне любімых генеральскіх цацак—ад ракет да хімічнай зброі. А ўсё тое здарылася і, здаецца, без асаблівых людскіх высілкаў, без якой старонняе сілы, нібы само сабой. Мабыць, сапраўды ва ўсяленскім маштабе, у макракосмасе адбываюцца таемныя працэсы, падобныя да тых, што вядомы нам па жыцці на зямлі: нараджэнне, развіццё, адміранне. Калі гэта так, дык беларускі этнас дужа малады, ён толькі падбіраецца да свайго развіцця, якога па некаторых прычынах быў пазбаўлены ў мінулым. Тое наша развіццё павольнае, духоўна-фізічныя магчымасці яго рэалізуюцца ашчадна-замаруджана, найбольшы ягоны росквіт наперадзе. Але тое пэўна, што Беларусь не знікне, калі не скарыцца чужой сіле, яшчэ разгорне свой жыццёвы патэнцыял і здзейсніць на боскай зямлі сваю людскую місію.

# ГРАМАДЗТВА ПЕРАД ВЫБАРАМ

Як ні змагаліся Народны Фронт і грамадзтва Беларусі за адстаўку карумпаванага ўраду і за новыя выбары, наменклатура, патаптаўшы ўсе законы і абяцаньні, дамаглася свайго. Парламенцкія выбары ў сакавіку не адбыліся. Народ у чарговы раз ашукалі. Каб неяк выратавацца ад непазьбежнага краху, яны дамагліся выбараў прэзідэнта. Разьлік просты: на нейкі час адцягнуць увагу людзей ад банкруцтва ўраду, выйграць прэзідэнцкія выбары і тым самым, умацаваўшы абсалютную ўладу мафіёзнай наменклатуры, аднавіць таталітарны рэжым, падрыхтаваць выгадныя для сябе ўмовы правядзеньня выбараў у парламент. Сцэнар гэты напісаны ў Маскве, якая праз свае сьпецслужбы рэальна ўплывае на ўрадавую палітыку Беларусі. Крэмль зацікаўлены мець у нас марыянеткавага, фармальна легітымнага, але залежнага ад Масквы прэзідэнта, каб па кавалачках, захопліваючы маёмасьць і нашу нацыянальную ўласнасьць, інкарпараваць Беларусь у Расею.

Разьдзел Канстытуцыі аб прэзідэнце прыняты з парушэньнем Закону і зарыентаваны выключна на канкрэтную асобу—Старшыню Савета Міністраў В. Кебіча. Згодна з гэтай Канстытуцыяй, усе істотныя ініцыятывы прэзідэнта (фармаваньне ураду, прызначэньне і зьняцьце міністраў, аб'яўленьне надзвычайнага стану і г. д.) павінны зацьвярджацца Вярхоўным Саветам. У той жа час прэзідэнт не мае права распусьціць Вярхоўны Савет і прызначыць новыя выбары. (Заўважым да таго, што закона пра прэзідэнта не існуе і паўнамоцтвы яго шмат у чым неакрэсьленыя. Вярхоўны Савет можа зьняць прэзідэнта з пасады па патрабаваньню 70 дэпутатаў). Такім чынам, калі прэзідэнтам становіцца «не Кебіч», ён будзе зьвязаны па руках і нагах гэтым Вярхоўным Саветам. Магчымасьці такога прэзідэнта невялікія. Калі ж ім стане Кебіч, то ён амаль аўтаматычна канцэнтруе ў сваіх руках абсалютную і неабмежаваную ўладу. Бо гэты Вярхоўны Савет «у руках» Саўміна, які ўзначальвае Кебіч. Вось тады нашае грамадзтва ўзорна пераканаецца, што такое «рука Масквы» і бязмежжа карумпаванай антынацыянальнай наменклатуры. Аналагічная сітуацыя ўзнікае і пры «прэзідэнце-тэрмінатары» (разбуральніку) Лукашэнку. З той хіба папраўкай, што развал і здача Беларусі пад Расею адбудзецца брутальна, груба і хутка.

Прэзідэнту «не Кебічу» прыйдзецца ўступіць у змаганьне з Вярхоўным Саветам, з Саўмінам, з усёй старой камуністычнай сістэмай. Тут шмат будзе залежаць ад яго палітычнай волі, рашучасьці, ад характару, нацыянальнай сьвядомасьці і сьветапогляду, бо гаворка ідзе аб выратаваньні нашай дзяржавы, незалежнасьці і свабодзе ад расейска-беларускай наменклатурнай мафіі. Тут альбо перамога, альбо паражэньне. «Згода» не атрымаецца.

З усіх дрэнных прэзідэнцкіх варыянтаў, бадай, найгоршым ёсьць варыянт з Шушкевічам. Маючы выдатныя магчымасьці на працягу амаль трох гадоў, калі быў на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета, Шушкевіч паказаў аднак сваю поўную няздольнасьць да кіраваньня краінай і да рэальнай палітычнай дзейнасьці ў інтарэсах нацыі і дзяржавы. Стаўшы пры дапамозе БНФ на вышэйшую прыступку ўлады ў Беларусі, ён адразу пачаў супрацоўнічаць з наменклатурнай большасьцю ў Вярхоўным Савеце і на пачатку карыстаўся поўнай яе падтрымкай (Кебіч валодаў тады толькі 150 галасамі. Для прыняцьця рашэньня трэба 174). Менавіта тады Шушкевіч меў магчымасьць адправіць у адстаўку Кебіча, але адмовіўся ад барацьбы, стаў безпрынцыпна падыгрываць прэм'ер-міністру і ўраду. Згодніцтва і прадажнасьць Шушкевіча прывялі да таго, што большасьць Вярхоўнага Савета апынулася пад поўным кантролем Саўміна і ўрадавай мафіі. Шушкевіч жа, раздаючы направа і налева блытаныя інтэрв'ю і прыстасоўваючыся пад наменклатурную сілу, не паварушыў і пальцам, каб нешта зьмяніць, сфармаваць хоць нейкую бачнасьць палітыкі, нейкія прынцыпы. Ён не сабраў сваёй каманды, не абнавіў бюракратычны апарат Прэзідыума Вярхоўнага Савета, адмовіўся ад рэальнай работы, патапіўшы ўсё ў нястрыманым словаблудзтве. У выніку ганебна разам з камуністычнай большасьцю задушыў рэферэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета і нечарговых выбарах, душыў рабочы страйкавы рух на Беларусі ў красавіку 1991 г., паспрыяў аднаўленьню дзейнасьці КПБ і ў цэлым камуністаў, адмовіўся ад абароны нацыянальных інтарэсаў Беларусі перад прымусам уступіць у так званую «калектыўную бясьпеку», падпісаў зь Ельцыным 27 студзеня 1992 г. рабаўніцкае пагадненьне аб бясплатным расейскім транзіце праз нашу краіну, пасьлядоўна перашкаджаў увядзенью нацыянальнай валюты, дэманструючы ў канцы гатоўнасьць здаць і дзяржаву, і незалежнасьць, і нават мову—толькі б утрымацца на пасадзе.

Калі цяпер прэзідэнтам робіцца Шушкевіч, ранейшая сітуацыя паўторыцца ў значна горшым варыянце. Уся ўлада і магчымасьці, як і раней, застаюцца ў Саўміна (у Кебіча) і Вярхоўнага Савета. Шушкевіч жа, атрымаўшы назад службовы «мерседэс» і ўсю ўладную мішуру, зноў пачне казаць, што ён абмежаваны Канстытуцыяй, што не мае правоў, што «ўрад працуе добра» і г. д. Не будзе ніякіх рашучых дзеяньняў і ніякай разумнай дзяржаўнай палітыкі.

Для карумпаванай наменклатуры такое становішча нядрэннае. Бо яны зноў будуць рабіць тое, што захочуць, але стануць прыкрывацца пры гэтым, нібы шырмай, быццам бы «дэмакратам» Шушкевічам. Для беларускага ж грамадзтва гэты варыянт, як мы ўжо адзначылі, найгоршы. Найгоршы таму, што ў грамадзтве яшчэ захоўваецца ўяўленьне пра Шушкевіча як пра «памяркоўнага» дэмакрата, які ўсюды шукае «згоды» (хаця якая можа быць «згода», скажам, паміж злодзеем і тым, каго абакралі). Выбраньне Шушкевіча дэзарыентуе і расслабіць людзей, раззброіць іх перад небясьпекай. Яны супакояцца і зноў стануць чакаць: ну вось, маўляў, цяпер «дэмакрат» Шушкевіч усё зробіць. У сапраўднасьці ж ён не зробіць нічога, але мафію гэтым самым міжволі прыкрые. Пасьля яго правалу вінаватымі зноў жа апынуцца «дэмакраты». Пра гэта наменклатура залементуе адразу. Грамадзтва ж нашае ў такім выпадку апынецца дэзарыентаваным, дэзарганізаваным і ня здольным да змагання за сваю краіну, за свае правы.

Пры варыянце «прэзідэнт Кебіч» не будзе ні двухсэнсоўнасьці, ні шырмы. Людзі зразумеюць, што наменклатурная мафія перамагла. У выніку ў грамадзтве аб'ектыўна ствараюцца ўмовы для шырокай апазіцыі, мабілізацыі сілаў і самаарганізацыі народа. А гэта, згадзіцеся, лепш, чым сьляпы параліч перад ілюзіяй.

Увогуле, ўсе тры адмоўныя варыянты прэзідэнцтва (Кебіч, Лукашэнка, Шушкевіч) недаўгатрывалыя. Усё правaліцца даволі хутка. Адсутнасьць патрэбных эканамічных рэформаў і халуйства перад Масквой і рускай мафіяй зробяць сваю справу. Аднак існуе агульная небясьпека ва ўсіх трох разбуральных варыянтах—небясьпека страты агульнанацыянальнай уласнасьці і дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Павінна быць такая палітыка і да ўлады прыйсьці такія асобы, якія захаваюць дзяржаву Беларусь, гарантуюць яе суверэнітэт, правядуць патрэбныя эканамічныя рэформы і палепшаць жыцьцё людзей.

Беларускі Народны Фронт рыхтуецца выступаць супраць адмоўных кандыдатаў у прэзідэнты—Кебіча, Лукашэнкі, Шушкевіча—кандыдатаў наменклатуры, разбурэньня і здрады. Управа БНФ 22 сакавіка разаслала інфармацыйны ліст для арганізацыяў БНФ, дзе адлюстравала палітычную пазіцыю Фронта. Канстатуецца, што некаторыя палітычныя сілы сярод дэмакратаў пачалі арганізацыйную дзейнасьць па выбарах задоўга да выбарчай кампаніі і пасьпяшаліся аб'явіць пра сваіх кандыдатаў у прэзідэнты, не правёўшы перад гэтым між сабой і БНФ аніякіх кансультацыяў і не зрабіўшы нават захадаў да такіх кансультацыяў.

Так зьявілася кандыдатура Шушкевіча, якую падтрымліваюць БСДГ і АДПБ. Трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што мы не лічым Шушкевіча дэмакратычным кандыдатам і «ня можам у чарговы раз,—як сказана ў лісьце,—падтрымліваюць і ўздымаць да вяршыняў улады чалавека, які, меўшы ўладу, чыніў здраду за здрадай свайму народу... Мы ня можам несьці палітычную адказнасьць перад народам за гэтага непрадказальнага і слабавольнага палітыка». Але адначасова мы адзначаем, што кожная партыя мае права выставіць свайго кандыдата і зьбіраць за яго подпісы. БНФ не будзе нікому ў гэтым перашкаджаць і нікога не стане крытыкаваць за іх пасьпешную ініцыятыву, памятаючы пра адзінства дэмакратычнага руху. Народны Фронт будзе зьбіраць подпісы і агітаваць толькі за свайго кандыдата.

Мы ўсьведамляем тое, што Беларускі Народны Фронт ёсьць адзіная пазітыўная, канструктыўная сіла на Беларусі. Ні ўрад, ні Вярхоўны Савет, ні хтосьці іншы не маюць пасьлядоўных станоўчых праграмаў развіцьця дзяржавы, эканомікі, выхаду яе з крызісу, не маюць станоўчых дасягненняў і рэальных прагнозаў. Беларускі Народны Фронт—гэта адзіная рэальная і пасьлядоўная антыкамуністычная апазіцыя антынароднаму наменклатурнаму рэжыму, якая, абараняючы інтарэсы народа, ніколі не ішла ні на якое згодніцтва і супрацоўніцтва з гэтым рэжымам. БНФ выступае як супраць камуністычнай, так і «дэмакратычнай мафіі». Беларускі Народны Фронт—гэта не дэмакратыя ўвогуле, гэта дэмакратыя—

(Заканчэнне на 4-й стар.).

